# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 41 (659) ГОД XIII 13 КАСТРЫЧНІКА 1968 г. ЦАНА 60 гр.




Танкавы дэсант.

# НАША АРМІЯ

**Асновай мілітарнай сілы сучаснага Войска Польскага з'яўляецца перадавая тэхніка. Ад часу першай бітвы адроджанага Войска Польскага, увекавечанай пад беларускай вёскай Леніна подзвігам касцюшкоўцаў (12—13 кастрычніка 1943), мінае 25 год. За гэты час народнае Войска Польскае прайшло слаўны шлях, вырасла ў магутную сілу, непахісны залог нашай незалежнасці і суверэннасці, сілу, злучаную неразрыўным братэрствам з Савецкай Арміяй і арміямі іншых сацыялістычных краін.**

**Сучаснасць нашай арміі перакануча паказвае паказчык росту матарызацыі, які ў пералічэнні на кожнага салдата павялічыўся ад 1939 года амаль у 200 разоў.**

**Танкі, самалёты, ракеты, якімі карыстаюцца польскія часці, сваімі тактычна-тэхнічнымі магчымасцямі цалкам раўняюцца, а нават часта пераўвышаюць зброю заходніх дзяржаў.**

**Пастаянна мадэрнізуецца наша авіяцыя, польскія танкісты абяспечаны электроннымі прыладамі, якія дазваляюць весці бой у кожных умовах, магутныя ракеты падоўжылі агонь нашай артылерыі на дзесяткі і сотні кіламетраў.**

**Дзякуючы прымяненню аўтаматыкі і электронных прылад можна ў адной хвіліне выслаць у напрамку варожай цэлі тысячы снарадаў, паставіць перад самалётам ворага цэлую сцяну агню. Камандванне так складанымі злучэннямі патрабуе глыбокіх тэарэтычных ведаў. На Захадзе няма такой арміі, у якой сярод прафесіянальных афіцэрскіх кадраў было б, як у нас, аж 30 працэнтаў людзей з вышэйшай адукацыяй. З кожным годам лік нашых вайсковых спецыялістаў пастаянна павялічваецца.**

**Людзі і тэхніка — вось што вырашае аб сіле і ўзроўні польскай арміі, якая разам з усім нашым грамадствам святкуе сваё слаўнае дваццаціпяцігоддзе.**

Першая танкавая брыгада імя Герояў Вэстэрплятэ, якая ўваходзіла ў склад І-ай арміі Войска Польскага, была адборнай часцю. Траплялі сюды загартаваныя, смелыя і моцныя хлопцы.

Адным з найбольш папулярных у брыгадзе быў падпаручнік Уладзіслаў Смэтана. У мінулым вядомы малады люблінскі футбаліст, у час вайны апынуўся ў СССР і пасля паспяховага заканчэння афіцэрскай школы танкавых войск быў назначаны ў нашу брыгаду намеснікам камандзіра 2-га танкавага палка. Поўны энергіі, дасканала азнаёмлены з тактыкай і тэхнікай, патрабавальны і тактоўны, нягледзячы на маладосць, хутка здабыў у падначаленых пашану і давер. Быў таксама вельмі прыстойны і не адной дзяўчыне патрапіў закружыць галаву.




Часці танкавай брыгады фармаваліся непадалёк Масквы, каля мястэчка Беламут. Нашы афіцэры выкарыстоўвалі кожную магчымасць, каб пабываць у Маскве. У адной з такіх паездак пазнаёміліся яны з маладой балерынай опернага тэатра. Звалася яна Рыта. Па паходжанні была грачанкай. Дзяўчына запаланіла нашых афіцэраў. Сярод іх быў і падпаручнік Смэтана.

Але, відаць, пачуцці былі ўзаемныя: Рыта вырашыла кінуць Маскву і балет, і ехаць з брыгадай на фронт. Адразу ажыццявіць гэту ідэю не ўдалося. Урэшце, нашы афіцэры перакаталі камандзіра брыгады, што нам неабходны палявы тэатр і ў пачатку 1944 года з'явілася ў нас Рыта. Вядома, брыгада не мела ніякіх штатаў на тэатральную трупу, але ўдалося арганізаваць малы эстрадны калектыў. Дзейнічаў ён у час адпачынку і карыстаўся вялікім поспехам. У час баявых дзеянняў артысты вярталіся да танкаў і гармат.

На эстрадзе Рыта спявала і танцавала, але ніколі не выступала ў балетным касцюме. Аднак і ў вайсковай

(Працяг на стар. 3)

## ◆ ПАЛІГОН ◆

**Грыміць раптоўнае:**
**«Трывога!»**
**І, як рукой,**
**здымае сон...**
**Бяжыць ажыўшая дарога**
**На аняmелы палігон.**

**Ён загаворыць**
**грозпай мовай —**
**Спяшай гаворку падтрымаць**
**Ты трапным стрэлам,**
**а не словам,**
**Каб ад сяброў не адставаць.**

**У нас адказная работа,**
**Яна не цэрпіць**
**лішніх слоў...**
**Мы праліваем**
**многа поту,**
**Каб толькі**
**не лілася кроў.**

**Міхась Казакоў**



# Гайнаўскія ПОШУКІ

У Гайнаўцы шмат дзеецца — гэта сапраўдная капальня ініцыятыў. Непрыпадкова, што іменна з Гайнаўскага павета ў мінулыя гады выйшла шмат карысных думак, падхопленых потым іншымі паветамі, а таксама ўсім ваяводствам. Прыклады? Будаўніцтва вясковых крамаў і злеўняў малака, грамадская камасацыя зямель, якая знайшла водгук па ўсёй краіне, конкурс на самы чысты горад. І шмат, шмат іншых.

### РОЗНЫЯ ІМЁНЫ ЎЗРОСТУ

Завецца Гайнаўка «горадам дрэвавікоў». І слушна: у горадзе, які налічвае 15 тысяч жыхараў, у прамысловасці працуе больш 5 тысяч чалавек, у ГЗПД — 1100, з кожнай сям'і працуе тут адзін або двое. Гэта прадпрыемства, хоць непараўнальна меншае, прымітыўнае, існавала тут перад вайной і называлася лесапілкай. ГЗПД — гэта твор нашых часоў. Пад гэтым імем крыецца не абы-што — гэта сінонім сучаснасці, прадпрыемства, якое праектуе і вырабляе драўнінныя вырабы, якое забяспечвае найбольшыя прамысловыя аб'екты краіны, якое мае сваіх пакупнікоў за граніцай — у Англіі, Бельгіі, ФРГ, Швецыі, Францыі і Італіі. Гайнавяне дадаюць: «Найбольшае прадпрыемства такога тыпу ў краіне». А іншыя пакажуць на Гайнаўскае прадпрыемства лясных машын, на хуткае яго развіццё (перад вайной чатыры прыватныя майстэрні, усяго на 69 рабочых), на напрамкі гэтага развіцця. Дадаюць гэта ўсё і гавораць: «Гэта будучыня нашага горада».

### ДЫСКУСІІ І РАШЭННІ

Гайнаўка з'яўляецца горадам, дзе пануе вялікая грамадская дысцыпліна. Павятовы камітэт звярнуўся ў апошнія гады па гэты рэзерв: зінтэграваў грамадства, уцягнуў людзей у ажыўленую грамадскую дзейнасць, навязаў шырокія кантакты з грамадскай апініяй.

Сакратары камітэта, члены экзекутывы, шырокі актыў сустракаюцца з рознымі асяроддзямі, дзейнічаюць праз грамадскія арганізацыі, арганізуюць пасяджэнні экзекутывы непасрэдна на прадпрыемствах ці на вёсках, супольна з зацікаўленым фабрычным грамадскім камітэтам ці падставовай партыйнай арганізацыяй. Намагаюцца, каб гэтыя спатканні былі цікавыя, патрапяць, калі трэба, запрасіць людзей з КВ ці ВРН, з Беластока ці Варшавы.

Усё гэта дае вынікі, дазваляе выкарыстаць погляды і думкі грамадства на вырашэнне цяжкасцей.

Нарадзілася тут думка, каб планаваная ГЗПД пабудова электрастанцыі, якая павінна была даваць тэхналагічную і ацяпляльную пару гэтаму прадпрыемству, узяла пад увагу таксама патрэбы іншых прадпрыемстваў і гарадской гаспадаркі. Раней ГЗПМЛ і ЗГМ планавалі пабудову ўласных катлоўняў... Сёння цеплаправод, так сказаць, «прамыслова-камунальны» знаходзіцца ўжо ў стадыі падрыхтоўкі дакументацыі.

Было прааналізавана становішча кааперацыі паміж прадпрыемствамі горада. Аказалася, што яна нязначная. Напрыклад, у 1966 годзе вартасць узаемных укладаў склала няпоўныя 2 мільёны злотых. Аказалася, што ёсць большыя магчымасці павелічэння кааперацыі — можна яе падвоіць на працягу аднаго года: гэта значыць, зменшыць выдаткі на перавозкі (часам з далёкіх гарадоў). Новая вялікая механічная майстэрня, рэсортная лабараторыя ў ЗСДД былі пабудаваны з думкай аб паслугах для іншых прадпрыемстваў.

Гайнаўскае прадпрыемства лясных машын выраблял да гэтага часу сушарні на дрэва, на руно, прычэпы. Размовы з калектывам, з актывам, з партарганізацыяй прынеслі каштоўную думку: лакалізаваць тут усе сушарні драўніннай прамысловасці ўсіх тыпаў у Польшчы, выспецыялізаваць у гэтым завод. Гэтую думку падтрымала Міністэрства лясніцтва і драўніннай прамысловасці, і будзе яна рэалізавана пасля 1970 года. Прадпрыемства тады дасць працу для 1,5 тыс. людзей.

### ГРАМАДА І ЯЕ КАМІТЭТ

Гайнаўская сельская гаспадарка не можа пахваліцца тым, чым прамысло-

(Працяг на стар. 4)

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Весткі

## СВЕТ

### ВАЖНЫЯ ПРАПАНОВЫ СССР

На форуме Генеральнай Асамблеі ААН выступіў 3 кастрычніка г.г. міністр замежных спраў СССР А. Грамыка. У сваім 40-мінутным выступленні А. Грамыка заявіў аб важных прапановах СССР у інтарэсе міру і бяспекі. Гаворачы аб тым, што ўрад СССР ад самага пачатку шукаў кантактаў з іншымі краінамі, Грамыка сказаў, што і сёння СССР з'яўляецца рашучым прыхільнікам шукання магчымасці супрацоўніцтва або нават супольнага дзеяння з урадамі буржуазных краін з мэтай прадухілення сусветнай вайны.

Прадстаўнік Савецкага Саюза сцвердзіў, што дзякуючы ўдачнай апрацоўцы дагавору аб нераспаўсюджванні тэрмаядзернай зброі, які да гэтай пары падпісала каля 80 дзяржаў, адкрылася перспектыва для заключэння новых міжнародных пагадненняў у такой важнай жыццёвай галіне, як тэрмаядзернае раззбраенне.

### ПАДРЫХТОЎЧАЯ КАМІСІЯ Ў БУДАПЕШЦЕ

Ад 28.IX. да 1.X. у Будапешце адбылося пасяджэнне Камісіі і Рабочай групы д/с падрыхтоўкі Міжнароднай нарады камуністычных і рабочых партый. У апублікаваным камюніке гаворыцца, што ўдзельнікі пасяджэння дайшлі да вываду яшчэ раз разгледзець справу тэрміну Міжнароднай нарады. Пастанавілі яны ў гэтай справе запытаць свае цэнтральныя камітэты. Наступнае пасяджэнне падрыхтоўчай камісіі адбудзецца 17 лістапада г.г.

### ПЕРАГАВОРЫ Ў МАСКВЕ

3—4 кастрычніка г.г. адбыліся ў Маскве савецка-чэхаславацкія перагаворы. Савецкі бок прадстаўлялі: генеральны сакратар ЦК КПСС **Л. І. Брэжнеў,** старшыня савета міністраў СССР **А. Н. Касыгін** і старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР **Н. В. Падгорны.** Чэхаславакію прадстаўлялі: І сакратар ЦК КПЧ **А. Дубчэк,** прэм'ер ЧССР **О. Чэрнік** і І сакратар КП Славакіі **Г. Гусак.**

Чэхаславацкая дэлегацыя заявіла, што ЦК КПЧ і ўрад ЧССР прадпрымуць усялякія крокі, каб запэўніць рэалізацыю маскоўскіх пагадненняў. Пабольшаць яны намаганні, каб умацаваць кіраўнічую ролю камуністычнай партыі, пабольшаць барацьбу з антысацыялістычнымі сіламі, прадпрыймуць адпаведныя крокі, каб сродкі масавай прапаганды былі поўнасцю адданы на службу сацыялізма.

### ПРАЕКТЫ ЗАКОНАЎ

«Трыбуна люду» ад 5.X. 1968 г. перадае, што на 50-годдзе Чэхаславакіі маюць быць прыняты законы: аб пераўтварэнні дзяржавы ў Федэрацыю чэхаў і славакаў і закон аб палажэнні нацыянальных меншасцей у ЧССР. Справа раўнапраўя венгерскай, нямецкай, польскай і украінскай нацыянальнасцей мае разглядацца ў як найшырэйшым сэнсе гэтага паняцця, як удзел у вырашанні аб справах усяго грамадства. (ах)

## БССР

### ПАСТАНОВА

Апублікавана пастанова Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі **«Аб 50-годдзі Камуністычнай партыі Беларусі (1918—1968 г.г.)».**

У снежні 1968 года спаўняецца 50 гадоў Камуністычнай партыі Беларусі.

30—31 снежня 1918 года адбылася VI Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя Расійскай камуністычнай партыі (бальшавікоў), якая, прыняўшы рашэнне аб утварэнні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, аб'явіла сябе І з'ездам Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі. Гэты з'езд завяршыў працэс арганізацыйнага афармлення Камуністычнай партыі Беларусі.

Беларускім народам, Кампартыяй Беларусі пройдзен слаўны паўвекавы шлях барацьбы і перамог. Камуністы, рабочыя, сяляне, інтэлігенцыя Беларусі ганарацца выдатнымі поспехамі, дасягнутымі за гады Савецкай улады.

Ва ўсіх партыйных арганізацыях на працягу снежня г.г. будуць праведзены партыйныя сходы з парадкам дня: **«50 гадоў Камуністычнай партыі Беларусі».**

### ГДР

Мінск наведала чарговая дэлегацыя Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі на чале з членамі Палітбюро, сакратаром Цэнтральнага Камітэта Сацыялістычнай адзінай партыі Германіі Герхардам Грунебергам. На працягу некалькіх дзён члены дэлегацыі знаёміліся з працай беларускіх навукова-даследчых устаноў па сельскай гаспадарцы, з дасягненнямі селекцыянераў рэспублікі ў галіне вырошчвання новых гатункаў збожжавых культур і бульбы.

Дэлегацыю праводзілі кіраўнікі Беларусі на чале з Першым сакратаром ЦК КП Беларусі П. Машэравым.

### СУВЯЗІ

«Літаратура і Мастацтва» паведамляе, што Інстытутам літаратуры і мастацтва імя М. Ауэзава Акадэміі навук Казахскай ССР падрыхтаваны бібліятэчны даведнік у трох тамах, у якім існуе раздзел **«Сувязі казахскай літаратуры з беларускай».** Між іншым, пералічваюцца тут творы Броўкі, Коласа, Куляшова, Купалы, Танка, Корбана, Брыля, Шамякіна, Хадкевіча, друкаваныя ў казахскім друку, а таксама творы казахскіх аўтараў, публікаваныя ў беларускім друку, савецкім.

### УЗНАГАРОДЫ

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР Сяргей Прытыцкі ўручыў Ганаровыя граматы і Граматы Вярхоўнага Савета БССР вялікай групе ўзнагароджаных за плённую работу па прапагандзе музычнай культуры і ў сувязі з паспяховым правядзеннем Усесаюзнага фестывалю майстроў опернага і балетнага мастацтва, прысвечанага 50-годдзю Беларускай Рэспублікі і Камуністычнай партыі Беларусі.

(С. Я.)

## ПОЛЬШЧА

### У СЛЁНСКІМ УНІВЕРСІТЭЦЕ

1 кастрычніка распачаў у Катовіцах першы год сваёй працы Слёнскі універсітэт. Ва ўрачыстасці пачатку працы універсітэта прыняў удзел прэм'ер Юзэф Цыранкевіч, які выступіў з прамоваю. Звярнуў ён перад усім увагу на аграмаднае развіццё навуковых кадраў за гады народнай улады. Найлепшым паказальнікам гэтага ўзросту з'яўляюцца лікі людзей з вышэйшай адукацыяй да вайны і зараз. У міжваенны перыяд дыпломы вышэйшай адукацыі атрымала агулам каля 83 тысяч асоб. У гадах ад 1944 да 1967 вышэйшую адукацыю закончыла звыш 438 тысяч асоб, а ў 1969 годзе дыплом заканчэння вышэйшай адукацыі атрымае паўмільённы абітурыент. Пакаленне, якое закончыла вышэйшыя школы ў Народнай Польшчы, складае зараз 90 працэнтаў агульнага ліку асоб з вышэйшай адукацыяй. У сувязі з тым інтэлігенцыя нашай краіны вельмі маладая. Каля 70 працэнтаў найбольш кваліфікаваных спецыялістаў не перакрочыла 40 гадоў жыцця.

«Важнасць гэтага факту, — сцвердзіў тав. Юзэф Цыранкевіч, — у тым, што пабудова сацыялізма азначае не толькі стварэнне яго матэрыяльнай базы, але не ў меншай меры выхаванне асабовасці будучага грамадзяніна сацыялістычнай Польшчы так, каб забяспечыў ён далейшы марш нашай краіны па шляху, вызначаным пакаленнямі, змагаўшыміся за сацыялістычную Польшчу».

### ЗМЕНЫ

Прэзэс Рады Міністраў перадаў Прэзідыуму Сейма праект новай пастановы аб вышэйшым школьніцтве, а таксама пастановы аб навуковых ступенях і званнях. Новы праект пастановы выразна падкрэслівае выхаваўчае значэнне вышэйшага школьніцтва, прадбачвае больш сучасную структуру кіравання школаю, забяспечвае ўмовы гэтага школьніцтва, паляпшае сістэму кадравай палітыкі, згоднай з інтарэсамі сацыялістычнай дзяржавы, пабольшвае адказнасць студэнцкай моладзі за вынікі выхавання і навучання.

Згодна з праектам пастановы, пабольшваюцца правы і адказнасць рэктара і дэканаў. Праект пастановы аб навуковых ступенях і званнях прадбачыць між іншым замену навуковай ступені дацэнта ступенню «габілітаванага доктара».

### У МЕЛЬЦУ

Фабрыка камунікацыйнага абсталявання ў Мельцу адзначала 30-годдзе сваёй працы. У час урачыстасці з прамоваю выступіў член Палітбюро партыі Ігнацы Лёга-Савінскі. Сцвердзіў ён між іншым, што Цэнтральны Камітэт партыі прыхільна аднёсся да эксперыментаваных ў гэтым прадпрыемстве новых спосабаў кіравання прадпрыемствам. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### ПАРТКАНФЕРЭНЦЫЯ Ў БЕЛАСТОКУ

У Беластоку 5 кастрычніка г.г. адбылася гарадская даз'ездаўская партыйная канферэнцыя. Амаль 200 дэлегатаў ад паасобных пярвічных партыйных арганізацый абмеркавалі дасягненні Беластока за міжз'ездаўскі перыяд і выбралі дэлегатаў на Ваяводскую канферэнцыю. Прыняў у ёй удзел член ЦК ПАРП і член Рады дзяржавы Уладзіслаў Віха.

### БЕЛАСТОЦКІЯ ВНУ-Ы

Як мы ўжо інфармавалі, пастановай Міністэрства асветы і вышэйшага школьніцтва ад 15 ліпеня г.г. у Беластоку адкрыты філіял Варшаўскага ўніверсітэта, які будзе рыхтаваць кадры для пачатковых школ. У суботу 5 кастрычніка ў прысутнасці рэктара Варшаўскага універсітэта праф. доктара Станіслава Турскага і прадстаўнікоў партыйных і дзяржаўных устаноў урачыста быў адкрыты першы год навукі ў трэцяй беластоцкай вышэйшай школе. Будзе ў ёй вучыцца больш 500 студэнтаў.

Новы навучальны год таксама ўрачыста распачаў Беластоцкі кансультацыйны пункт Галоўнай школы планавання і статыстыкі ў Варшаве. Дае ён магчымасць навукі для больш 400 студэнтаў.

### ПАМЯЦІ МАЗУРСКАГА ПАЭТА

Прэзідыум ВРН у Беластоку супольна з павятовымі ўладамі ў Элку 6 кастрычніка ўрачыста адзначылі 110-ю гадавіну нараджэння народнага мазурскага паэта Міхала Кайкі. З гэтай нагоды ў роднай вёсцы паэта Агрудэк быў адкрыты музей, прысвечаны яго жыццю, творчасці і яго змаганням з германізацыяй мазурскага насельніцтва. Адначасова пачатковая школа ў Агрудку атрымала імя Міхала Кайкі.

### МІЛІЦЫЯНЕРАМ І СПАРТСМЕНАМ

З нагоды 24-ай гадавіны дзейнасці МО і 20-ай гадавіны існавання ў Беластоку спартыўнага клубу «Гвардыя» 3 кастрычніка г.г. у беластоцкім тэатры адбылося ўрачыстае пасяджэнне, у якім між іншымі прынялі ўдзел міністр унутраных спраў Казімір Світала, І сакратар ВК ПАРП А. Лашэвіч, старшыня ВРН С. Жмійка, ваяводскі камендант МО Б. Нарэнгоўскі. Прысутныя былі таксама прадстаўнікі міліцыі з Гродзенскай вобласці БССР. Ад іх імя палкоўнік Мікалай Судзілоўскі выступіў з прывітальным словам і перадаў беластоцкім міліцыянерам і спартсменам каштоўныя падарункі ад беларускіх міліцыянераў.

### НЯДЗЕЛЯ ЧЫНУ

Па ініцыятыве павятовых праўленняў ЗМС і ЗМВ у Гайнаўцы апошняя нядзеля была аб'яўлена «Нядзеляй маладзёжнага чыну ў гонар V з'езда партыі». Амаль 260 вучняў і рабочай моладзі па тры гадзіны працавалі для агульнага дабра. Гавораць, што найлепшымі аказаліся вучні тэхнікума драўніннай прамысловасці і вучні агульнаадукацыйнага ліцэя. (вр)




**NIEDZIELA, 13 października**

6.00 XIX Igrzyska Olimpijskie — Sprawozdanie z Meksyku. 8.30 „Pałac Chana w Baku" (Moskwa). 9.00 Program dnia. 9.05 TV Kurs Rolniczy: „Dobór bazy paszowej przy wysokiej obsadzie bydła". 9.40 „Przypominamy, radzimy". 9.50 PKF. 10.00 „Przygody trzech muszkieterów". 10.25 „Melodie na dzień dobry". 11.00 Transmisja ze wsi Polichno w pow. Piotrkowskim z uroczystości przekazania społeczeństwu Muzeum Czynu Partyzanckiego oraz okolicznościowe widowisko plenerowe pt. „Biało-Czerwone". 13.00 Dziennik. 13.10 „Przemiany". 13.40 Telewizyjny Teatr Lalek. B. Leśmian: „Baśń o zaklętym rumaku". 14.35 „Rozmowy o języku". 14.50 „Śpiewające podwórka". 15.50 „Ukochany kraj, umiłowany kraj" — teleturniej. 16.40 Felieton telewizyjny. 17.00 XIX Igrzyska Olimpijskie z Meksyku. (Kronika Olimpijska). 17.30 „Tele-Echo". 18.10 Estrada Literacka. 18.55 „Ludzie i zdarzenia". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Parada tańców i piosenek" — film węg. 21.30 XIX Igrzyska Olimpijskie z Meksyku.

**PONIEDZIAŁEK, 14 październik**

5.55 XIX Igrzyska Olimpijskie (Meksyk). 8.15 Przerwa. 15.35 Program dnia. 15.40 Politechnika TV. 15.45 Dziennik. 17.00 Kronika Olimpijska. 18.00 Dla dzieci: „Pan Półka i Spółka". 18.20 „Kino Krótkich Filmów". 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV i informator olimpijski. 20.10 Teatr TV. K. Feher: „Nie jesteśmy aniołami". 21.10 Dziennik. 21.30 XIX Igrzyska Olimpijskie (Meksyk).

**WTOREK, 15 październik**

5.55 XIX Igrzyska Olimpijskie (Meksyk). 8.15 Przerwa. 9.00 Dla szkół (kl. II lic.) Język polski. Wiliam Szekspir: „Hamlet" („Dzieje dramatu"). 9.30 „Katastrofa" — film fab. węg. 10.55 Dla szkół (kl. V—VI) Język polski. „Odwaga" („O miejsce wśród ludzi"). 11.25 Przerwa. 12.30 i 15.05 „Przysposobienie Rolnicze": „Higiena pomieszczeń inwentarskich". 15.00 Program dnia. 15.40 Politechnika TV. 15.45 Dziennik. 17.00 Kronika Olimpijska. 18.00 „Nie tylko dla pań". 18.20 TV Kurier Warszawski. 18.35 „7 milionów młodych". 18.50 „Kino Filmów Amatorskich". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV i informator olimpijski. 20.10 „Technika na codzień" — teleturniej. 20.45 „Angela" nowela filmowa fr. 21.10 Dziennik. 21.30 XIX Igrzyska Olimpijskie (Meksyk).

**SRODA, 16 październik**

5.55 XIX Igrzyska Olimpijskie (Meksyk). 8.15 Przerwa. 9.55 Dla szkół (kl. VIII) Fizyka: „Przyrządy optyczne". 10.25 „Mam tu swój dom" — film fab. pol. 11.55 Dla szkół (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie: „W Powiatowej Radzie Narodowej". 12.25 Przerwa. 14.55 Program dnia. 15.00 Matematyka w szkole: „Rzut równoległy na prostą". 15.30 Politechnika TV. 16.30 Dziennik. 16.45 Kronika Olimpijska. 18.15 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 18.45 TV Kurier Lubelski. 19.00 „Statek z Hajfongu" — rep. filmowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV i informator olimpijski. 20.10 „Światowid". 20.35 „Śpiewnik domowy" Stanisława Moniuszki. 21.10 Dziennik. 21.30 XIX Igrzyska Olimpijskie (Meksyk).

**CZWARTEK, 17 październik**

5.55 XIX Igrzyska Olimpijskie (Meksyk). 8.30 Przerwa. 10.40 „Cena odwagi" — film fab. bułg. 11.55 Dla szkół (kl. VII—VIII) Język polski: „Radio". 12.25 Przerwa. 15.35 Program dnia. 15.40 Politechnika TV. 16.45 Dziennik. 17.00 Kronika Olimpijska. 18.00 „Z kamerą po świecie". 18.15 „Przegląd muzyczny". 18.45 „Trybuna Telewizyjna". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV i informator olimpijski. 20.10 „Ostatnia szansa" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 21.05 Dziennik. 21.30 XIX Igrzyska Olimpijskie (Meksyk).

**PIĄTEK, 18 październik**

5.55 XIX Igrzyska Olimpijskie (Meksyk). 8.15 Przerwa. 10.00 „Ostatnia szansa" („Stawka większa niż życie"). 10.55 Dla szkół (kl. VII) Wychowanie obywatelskie: „W zakładzie pracy". 11.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Zajęcia techniczne: „Szyfrowy zamek elektryczny". 13.15 Przerwa. 15.35 Program dnia. 15.40 Politechnika TV. 16.15 Dziennik. 17.00 Kronika olimpijska. 18.00 Dla dzieci: „Jaworowe mosty". (Przeniesienie z Teatru „Baj"). 18.15 TV Kurier Mazowiecki. 18.30 „Trzy grosze" — program rozrywkowy. 18.45 „W pracowniach polskich uczonych". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV i informator olimpijski. 20.10 „Śpiewa Lili Iwanowa" — film bułg. 20.35 „Refleksje". 21.05 Dziennik. 21.25 XIX Igrzyska Olimpijskie. (Meksyk).

**SOBOTA, 19 październik**

5.55 XIX Igrzyska Olimpijskie (Meksyk). 8.15 Przerwa. 10.15 „Pięć dni i pięć nocy" — film fab. NRD. 11.55 Dla szkół (kl. VII) Zoologia: „Pierwotniaki". 12.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 TV Kurs Rolniczy: „Ekonomiczna efektywność dawki żywieniowej". 16.20 Program Tygodnia. 16.45 Dziennik. 17.00 Kronika olimpijska. 18.00 Dla młodych widzów: „Dla każdego coś miłego". 18.45 „Włoskie melodie rozrywkowe" — film wł. 19.00 „Gawędy o współczesności". 19.20 Dobranoc. 19.30 „Monitor". 20.00 Informator Olimpijski. 20.10 „Małżeństwo doskonałe" — program rozrywkowy. 21.10 Dziennik. 21.30 XIX Igrzyska Olimpijskie (Meksyk).




**PIĄTEK, 11 październik**

7.30 „Bitwa o Białoruś". 8.05 Dziennik. 8.15 Film animowany dla dzieci. 8.30 „Z pól". 9.00 S. Lem „Solarys". Spektakl TV. Cz. II. 14.55 „Nowiny". 15.05 Program dnia. 15.10 Festiwal filmów dokumentalnych. 15.20 „50 dni". 15.50 Dla uczniów „Archimedes". 16.20 Grafika Arlena Kaszkurewicza. 16.50 „5+2". 17.30 Piłka nożna. „Dynamo" (Moskwa) — „Dynamo" (Tbilisi). 19.15 „Sztafeta nowin". 20.15 Program rozrywkowy. 21.15 Dziennik. 21.30 „Sala tańców" 22.00 Na dobranoc.

**SOBOTA, 12 październik**

6.25 Program dnia. 6.30 Dla techników. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Dziennik. 8.00 „Jubileusz". 8.30 „Reportaż sobotni". 9.00 „Braterstwo broni". 9.20 „Za naszą i waszą wolność". Film dokumentalny. 10.50 „Szkatułka muzyczna". 11.10 „Kłos". 12.00 Teatr TV dla dzieci. 14.00 „Świat socjalizmu". 14.30 TV barwna. 16.00 Piłka nożna. „Dynamo" (Kijów) — „Spartak" (Moskwa). 17.45 „Klub filmowy". 18.45 „Czas". 19.15 Pieśni komsomolskie. 21.00 Koncert orkiestry „Błękitny ekran". 21.30 Dziennik.

**NIEDZIELA, 13 październik**

6.25 Program dnia. 6.30 Dla techników. 7.00 Gimnastyka. 7.15 Dziennik. 7.30 „Budzik". 8.00 Kronika filmowa. 8.10 Film fabularny dla dzieci. 9.20 Prowadzi nas Lenin. 10.10 Konkurs TV dla uczniów. 10.40 „Ojczyzna". Młodzieżowy klub TV. 11.20 Koncert dla uczniów. 12.00 „Święto plonów". 14.00 „Kiosk muzyczny". 14.30 TV barwna. 16.00 „Przy płomyku". 17.00 „Człowiek ziemi mojej". 17.30 Koncert laureatów. 20.30 „Białe i czarne".




(Працяг са стар. 1)

недапасаванай вопратцы была яна прывабнай.

Падпаручнік Смэтана сачыў за ёю ўважна. Спачатку раздражняла яго крыху яе залётнасць, але неўзабаве пазнаў яе добры характар і дружба змянілася ў вялікую любоў.

У ліпені, вызваляючы Люблін, падпаручнік Смэтана адшукаў сваю сям'ю, прадставіў нарачоную, і зноў у бой. У жніўні камандаваў сваім палком на плацдарме пад Варкай. Танкі 2-га палка, пераправіўшыся праз Віслу, адразу былі ўведзены ў бой. Падтрымлівалі яны савецкую пяхоту, якая імкнулася пашырыць плацдарм. Баі тут былі жорсткія. Паасобныя ўзгоркі, вёскі, цагельні, кожныя некалькі гадзін пераходзілі з рук у рукі. Падпаручнік Смэтана камандаваў палком на першай лініі. Не было гэта згодна з правіламі, але добра ўздзейнічала на самапачуццё салдат і дазваляла больш эластычна кіраваць боем.

Пасля некалькіх дзён немцы ўвялі ў бой цяжкія танкі «Тыгры». Змаганне з імі было для нас даволі цяжкай праблемай. Мелі мы толькі сярэднія і лёгкія танкі. Гарматы нашых танкаў не ва ўсіх месцах маглі прабіць магутную броню «Тыгра». Каб знішчыць, трэба было яго трапіць у бок або спераду пад прамым вуглом. Праўда, у брыгадзе быў артылерыйскі полк з магутнымі гарматамі на гусеніцах. Для іх «Тыгры» не былі праблемай. Але ў 1944 годзе немцы бераглі свае танкі, не мелі іх замнога. Дык наладжвалі засады і адтуль нішчылі нашы танкі. Калі толькі былі выкрыты, то, не чакаючы прыбыцця нашых гусенічных гармат, неадкладна адыходзілі на тылы сваіх войск. Потым у брыгады аднялі гэты артылерыйскі полк. Ён, як і цяжкія танкі, быў у распараджэнні камандуючага танкавых войск. З «Тыграмі» і «Пантэрамі» трэба было даваць рады ўласнай кемлівасцю.

У часе адной з атак на плацдарме падпаручнік Смэтана сцвердзіў, што па яго танках недзе з боку пералеска немцы вядуць агонь з цяжкіх гармат. Адзін танк быў пашкоджаны, а другі спалены. Ні разведчыкі палка, ні назіральнікі з паветра не выкрылі ў гэтым месцы пазіцый цяжкай артылерыі, і падпаручнік Смэтана вырашыў праверыць становішча асабіста. Накіраваў свой танк у напрамку разваленай клуні, што стаяла на ўскраіне пералеска. Каб лепш убачыць, ці з нізкага пералеска не тырчаць вежы варожых танкаў, ён выхіліўся з танка. Гэтую неасцярожнасць ён прыплаціў жыццём.

Пахавалі яго на беразе Віслы, каля пераправы, побач са сваімі савецкімі салдатамі, якія загінулі ў баях за левы бераг Віслы.

Смерць падпаручніка Смэтаны была вялікім ударам для салдат брыгады. Гарэлі яны прагай помсты. Найбольшы аднак удар прыпаў на плечы маладзенькай Рыты, якая кахала падпаручніка Смэтану сваёй першай дзявочай любоўю. Ніхто тады таксама ў брыгадзе не ведаў, што Рыта была цяжарная.

Замкнулася яна ў сабе і толькі прасіла перанесці яе ва ўзвод разведчыкаў. Камандзір роты згадзіўся. Не адгаварвалі, бо думалі, што пасля першай вылазкі сама ўцячэ.

На плацдарме пад Варкай ад гэтага ўзвода патрабавалі цудаў. Ставіліся заданні ноччу перапраўляцца за фронт і выяўляць дыслакацыю варожых войск, артылерыі, танкаў і г.д. Заданні былі цяжкія, але ўдавалася іх выканаць. І выявілася, што вялізную дапамогу аказала ўзводу маладая маскоўская балерына Рыта. Была бясстрашнай. Салдаты казалі, што шукала яна смерці. Аднак не смерці яна шукала, але помсты.

Аднойчы папрасіла яна ў камандзіра ўзвода дазволу праверыць пералесак, з якога быў забіты падпаручнік Смэтана. Атрымаўшы згоду, адлучылася ад узвода і пры святле месяца пачала разведваць пералесак. Былі там нейкія пазіцыі нямецкай пяхоты, акопы і зямлянкі, але не відаць было артылерыі ці танкаў. А падпаручнік Смэтана загінуў ад цяжкага артылерыйскага снарада.

Рыта лягла і пастанавіла чакаць да раніцы. Апранутая ў ахоўны камбінезон, была зусім непрыкметнай. Раптам пачула шум матора цяжкага танка. Заўважыла, што немцы заціраюць сляды гусеніц і ўводзяць «Тыгра» ў разваленую, набітую саломай, клуню. Цяпер толькі зразумела, адкуль немцы абстрэльвалі нашы танкі і ад чыёга снарада загінуў Смэтана.

Рыта доўга ляжала каля пералеска і ўзвод адышоў. Сама перайшла фронт і далажыла камандванню палка аб выкрыцці пазіцыі «Тыгра». Неўзабаве быў ён знішчаны.

Пасля замацавання на плацдарме пяхоты, танкавую брыгаду перакінулі на поўнач і брала яна ўдзел у вызваленні Прагі. 14 студзеня 1945 г. танкі брыгады зноў вярнуліся на плацдарм пад Варкай, каб пачаць вызваленне заходняй тэрыторыі Польшчы. З'язджаючы з моста, танкісты моўчкі аддавалі пашану пахаваным тут польскім і савецкім героям, якія, утрымліваючы плацдарм пад Варкай, выдатна аблегчылі наступленне і прыспешылі вызваленне нашых зямель на захад ад Віслы.

З гэтага дня нашыя танкі не спыняліся ўжо больш на даўжэйшы адпачынак. Білі мы і знішчалі гітлераўцаў, вызваляючы Варшаву, Быдгашч, Гдыню і Гданьск, а таксама здабываючы Берлін.

Рыта з увагі на стан здароўя вярнулася ў Маскву.

Беласток, 1968 г. **Яніна Данішэўская**






У канцы жніўня г.г. у Куратарыі школьнай акругі ў Беластоку адбылася незвычайна ўзнёслая ўрачыстасць. Адбылося тут развітанне з т.зв. Дзеваткай — 68, гэта значыць з людзьмі, работнікамі Куратарыі, якія адыходзілі на пенсію. Сярод заслужанай «дзеваткі» знайшоўся шырока вядомы нашаму чытачу старшы візітатар Куратарыі беластоцкай школьнай акругі **Ян Канапелька.**

**Ян Канапелька 43 гады** працаваў у школьніцтве. Узнагароджаны Залатым Крыжам Заслугі. Аж **15 год** прысвяціў Ян Канапелька працы ў школьнай адміністрацыі. Падзякаваўшы адыходзячым на пенсію, куратар **мгр Эдвард Крынскі,** між іншым, так выказаўся: **«Калега Канапелька асабліва вялікія заслугі мае ў галіне кіравання школьніцтвам для нацыянальных меншасцей».** І сапраўды, памятаем Я. Канапельку пры розных аказіях, звязаных з курсамі настаўнікаў, канферэнцыямі, нарадамі, пасяджэннямі і т.п. Колькі б разоў не абмяркоўвалася справа беларускага школьніцтва ў Галоўным праўленні БГКТ, заўсёды прыймаў у іх удзел візітатар Канапелька.

Зразумела, лёгка пісаць, гаварыць аб такім ліку гадоў працы, але трэба ведаць, што кожны год працы прыносіў дадатковыя абавязкі і заданні. А ў нацыянальным, меншасным школьніцтве праблем было нямала. Трэба ж было не толькі візітаваць школы, што рабіў візітатар Канапелька з поўнай адданасцю, але раіць, дапамагаць, вучыць. Напрыклад, у беларускім школьніцтве было па-рознаму: былі падручнікі, не было праграм, і наадварот. За навучанне беларускай мовы часам браліся настаўнікі, якія мовы гэтай абсалютна не ведалі. З гэтымі нялёгкімі справамі трэба было не толькі сустракацца, але раіць у іх пераадоленні, прымаць рашэнні. Старшы візітатар Ян Канапелька ўлажыў многа працы ў арганізацыю рэцытатарскіх конкурсаў школьнай моладзі, якія арганізавала Куратарыя супольна з ГП БГКТ.

Хіба не пад сілу выразіць у словах усё тое аб чалавеку, які мае вялікую дозу заслуг у тым, што рабілася і робіцца ў нацыянальным школьніцтве і асвеце.

На месца адыйшоўшых работнікаў Куратарыі прышлі новыя. Але, як гаварыў на развітальнай урачыстасці куратар, вопыт і дапамога пенсіянераў у працы новых людзей і наогул у кіраванні школьнымі справамі будуць неабходнымі і таму запрашаў да сустрэч. «Адыходзім, — гаварыў адзін з пенсіянераў, — не як прагорклыя старыя, але, як людзі, поўныя энтузіязму да далейшай працы». Мяркуем, што кантакты візітатара Канапелькі таксама не парвуцца з намі. Галоўнае праўленне будзе чакаць дапамогі вопытнага педагога ў многіх асветных справах. «Ніва» таксама вельмі зацікаўлена ў далейшых кантактах, тым больш, што сябра Канапелька прыймаў актыўны ўдзел пры распрацоўцы плана дапамогі з боку нашага часопіса настаўнікам беларускіх школ.

Са свайго боку з прыемнасцю адзначаем шматгоддзе Вашай працы, сябра Канапелька, горача і сардэчна дзякуем за супрацоўніцтва, запрашаем да далейшага і адначасова шчыра жадаем прыемнага адпачынку. (А. К.)




# ГІСТАРЫЧНЫ ДОМ

**Гэты дом стаіць у цэнтры Расіі, над берагам слаўнай рускай ракі Ака. Мармуровая табліца, умацаваная на франтоне гэтага дома, паведамляе: «У гэтым доме ў гады Вялікай Айчыннай вайны з 1943 г. да 1944 г. знаходзіўся штаб Дывізіі імя Тадэуша Касцюшкі Войска Польскага».**




## У Нацыянальнай камісіі ВК ПАРП

28 верасня г.г. адбылося чарговае пасяджэнне Нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку. Прысвечана яно было абмеркаванню працы партыйнай арганізацыі пры Галоўным праўленні Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Інфармацыю аб працы гэтай партарганізацыі зрабіла І сакратар ПОП пры ГП БГКТ Лідзія Бялецкая.

Камісія станоўча ацаніла дагэтуляшнюю працу партыйнай арганізацыі пры ГП БГКТ і звярнула ўвагу на патрэбу і шляхі далейшага ўдасканальвання яе.

## Новы зборнік Алеся БАРСКАГА

Днямі выйшаў новы паэтычны зборнік Алеся Барскага п.з. «Жнівень слоў». Зборнік выдала Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства тыражом у 4000 экземпляраў. Цана 8 зл.

## Гарцэры Бельшчыны

Буйна развіваецца ЗГП у Бельскім павеце. Бельскі гуфец налічвае 221 дружыну. У тым ліку 110 дружын зуховых, 93 малодшагарцэрскія, 18 старшагарцэрскіх і 6 міжшкольных гарцэрскіх кругоў. Каб кіраваць такой колькасцю дружын, грамадска прыступіла 253 інструктары. 221 з іх працуе непасрэдна дружыновымі, а 32 прыдзелена да працы ў Камэндзе гуфца. Найбольшая колькасць інструктарскай кадры — гэта настаўнікі — 201, вучні старэйшых класаў — 42 інструктары, а тэхнічная інтэлігенцыя і іншыя — 10 асоб. (ак)



На складзе насеннай цэнтралі.

# ЦЭНТРАЛЯ НАСЕННА І ЎРАДЖАЙ

У Беластоцкім ваяводстве ні адна насенная цэнтраля не мае такіх складаў, як у Саколцы. Яны аграмадныя і абсталяваныя па апошнім слове тэхнікі. Ёсць тут (пакуль што рэдкія ў нас) чысцільныя і сушыльныя машыны да збожжа, якое ўкладваецца пасля ў мяшках на спецыяльныя полкі і пад'ёмнаю машынаю пераносіцца на патрэбнае месца. Такім чынам у Сакольскай насеннай цэнтралі ліквідавана цяжкая праца грузчыкаў, якія ў мінулым уручную ўкладвалі мяшкі з насенным збожжам на некалькіметровую вышыню. Апрача таго, насенне, пакладзенае на свайго роду полках, вельмі добра перахоўваецца.

Бульбу таксама складваюць чысцільнымі канвеерамі ў спецыяльныя склады — боксы па 50 тон, у якія даводзіцца добра на ўсю глыбіню паветра з адпаведнай тэмпературай. Неабходна падкрэсліць і тое, што тут заграничныя сартавальныя машыны, асабліва да бульбы, дазваляюць рэгуляваць і адбіраць такой велічыні бульбы, якую мы хочам.

Няпоўны быў бы вобраз сакольскай насеннай цэнтралі, калі б мы не ўспомнілі аб лабараторыі гэтай установы. Тут жанчыны-спецыялісты спецыяльнымі прыладамі вызначаюць вагу збожжа, сілу яго прарастання, акрэсліваюць яго катэгорыю. Узначальвае тэту ўстанову Мікалай Лукашук.

А цяпер скажам аб ролі насеннай цэнтралі ў павелічэнні ўраджаю.

Усім вядома, што добрае высокакваліфікаванае насенне гарантуе добрыя ўсходы і добры ўраджай. Зараз праходзіць сяўба азімага жыта і пшаніцы. Сельскагаспадарчая служба апрацавала насенныя планы адносна сяўбы высакаякасным зернем. Гэтыя планы характарызуюцца двума кірункамі. Некаторыя вёскі атрымоўваюць насенне на рэпрадукцыю, гэта значыць, што гаспадар, атрымаўшы збожжа на насенне пасля збораў абавязаны сабе пакінуць яго на насенне і выменіць суседзям. І так, жыта на рэпрадукцыю сакольская насенная цэнтраля дала 81 тону.

Другі напрамак — гэта прымусовае планавае аднаўленне сеўнага збожжа для ўсяе вёскі. Для планавага аднаўлення сеўнага матэрыялу на цяперашнюю сеўную кампанію сакольская насенная цэнтраля падрыхтавала 220 тон жыта.

Некалькі год таму назад сялян цяжка было нагаварыць на абмен сеўнага матэрыялу. Падрыхтаванага высакаякаснага насення шмат заставалася. Але памаленьку гаспадары на канкрэтных фактах сваіх суседзяў або суседніх вёсак пераканаліся, што сяўба добрым насеннем забяспечвае значна вышэйшы ўраджай.

Да ГС-у ў Крынках дастаўлена цяпер 140 тон высокакваліфікаванага жыта. Да 20 верасня было ўжо распаўсюджана гэтага насення 120 тон. Да поўнага заканчэння сеўнай кампаніі напэўна кваліфікаванага збожжа не хопіць.

Насенная цэнтраля вядзе таксама скуп насення тых культур, якія былі закантрактаваныя гаспадарамі. З цяперашніх збораў на складах цэнтралі ёсць ужо 170 тон адборнага лубіну, каля 20 тон сэрадэлі і іншых культур.

Пачалося ўжо капанне бульбы. І ў сувязі з адборам яе на высакаякаснае насенне ў цэнтралі насеннай распачалася інтэнсіўная праца. Працуюць сартоўнікі — і насенная бульба загружаецца ў спецыяльныя боксы. Там яна будзе ляжаць аж да вясны. А на прадвесні зноў праходзіць праз сартоўнікі і найлепшыя яе гатункі развозяцца да ГС-аў, а адтуль да гаспадароў. У гэтым годзе, гэта значыць, вясною, цэнтраля мела 500 тон высакаякаснай з найлепшых гатункаў бульбы (уран, флісак, эпока, вышаборская і іншыя).

Апрача таго, насенная цэнтраля ў Саколцы падрыхтоўвае бульбу на экспарт.

Цэнтраля мае ўсе культуры і распаўсюджвае іх сярод гаспадароў. Роля яе ў павелічэнні ўраджаю аграмадная.

(М.Х.)

МІЖ З'ЕЗДАМІ

# СЯМЯЦІЦКАЕ ГОРА

Сяляне Сямяціцкага павета, асабліва яго ўсходняй часткі, атрымалі гэтае гора ў спадчыне ад мінулага часу.

Найбольш відавочна праяўляецца яно ў спосабе і метадах гаспадаравання. Сямяціцкі павет у мінулым годзе адставаў па ўраджайнасці збожжавых культур ад сярэдніх ваяводскіх вынікаў на 2 цэнтнеры з кожнага гектара, а ад сярэдніх дзяржаўных — аж на 5 з палавінай.

Кіраўнікі сельскай гаспадаркі ў Сямяцічах бязрадна разводзяць рукі. Моў, нічога не парадзіш, такі ўжо наш лёс, такая спадчына. А калі іх прыціснуць да сценкі, тады ўказваюць прычыны, на іх погляд найбольш істотныя. Вось яны:

1) адносна нізкае прымяненне штучных угнаенняў;
2) сяўба з каробачкі або з плахты;
3) абыякавасць да асноўных агратэхнічных прыёмаў;
4) невыконванне заданняў у галіне барацьбы з пустазеллем і шкоднікамі раслін.

Ад сябе дакінуў бы я яшчэ адну прычыну, бадай што, па-мойму, найважнейшую — раздробленасць сельскай гаспадаркі і цераспалосіца, якая, бы цесны хамут, душыць шыю ўсялякаму сапраўднаму прагрэсу. Дзядулі і бацькі сённяшніх гаспадароў ды і яны самі вучыліся сваёй прафесіі на васьмушках, чвэртках, паўучастках і рэдка, рэдка калі на поўных участках — гэта былі ўжо багатыя гаспадары.

За гады народнай улады шмат чаго ў гэтай галіне змянілася, у многіх вёсках праведзена камасацыя зямлі. Аднак асталася старая традыцыя апрацоўкі глебы, астаўся даўнейшы вопыт і яго не так лёгка змяніць.

Кіраўнікі сельскай гаспадаркі Сямяціцкага павета наракаюць, што сяляне ў грамадах Клюковічы, Мельнік, Баратынец Рускі, Бацікі Сярэднія і Нурэц мала прымяняюць штучных угнаенняў. І сапраўды, у Клюковіцкай грамадзе, паводле падлікаў спецыялістаў, выпадае ледзь па 2,2 кілаграма НПК на адзін гектар зямельных угоддзяў. Гэта амаль што сімвалічная колькасць.

Клюковіцкая грамада — гэта вёскі Клюковічы, Вычулкі, Літвінавічы, Такары і некаторыя іншыя. Там зямля добрая. Гаспадары суседніх вёсак, з Тымянкі, з Вулькі Нурэцкай, з Зубач заўсёды ім зайздросцілі. Неаднойчы прыходзілася чуць гутарку: «Што там у Клюковічах, або ў Літвінавічах! Яны спяць, а ім само расце на полі, нават гною не трэба даваць. Дай мне такую зямлю, дык пакажу, як трэба гаспадарыць!»

Відаць, сапраўды гаспадары Клюковіцкай грамады паверылі ў тое, што на іх палях расце ўсё без угнойвання. Адпавядала гэта праўдзе, калі ўраджай, напрыклад, жыта, лічыўся на пяць — шэсць пудоў з капы. Але зараз? Гэта проста звычайная адсталасць.

Піянерамі сучасных метадаў гаспадаравання ў гэтым кутку Сямяціцкага павета былі спулдзельні прадукцыйныя ў Тымянцы і Вульцы Нурэцкай. Яны на практыцы даказалі, як уздзейнічаюць штучныя ўгнаенні на ўраджай. Нядаўна спулдзельні прадукцыйныя ўзніклі таксама ў Клюковічах і ў Зубачах. Можа ім удасца пераадолець старую традыцыю?

— Цяпер дрэнна, — гавораць у павеце, — але чатыры гады таму назад было яшчэ горш. У 1964 годзе сяляне Сямяціцкага павета выкарыстоўвалі на сваіх палях каля 24 кілаграмаў НПК на адзін гектар. Зараз гэты паказальнік амаль падвоіўся, а на 1970 год запланавана ў нас аж 110 кг. НПК на адзін гектар.

Як прыклад магчымасці сельскай гаспадаркі Сямяціцкага павета ўказваюць яны вёскі ў грамадах Драгічын, Цехановец, Вінна-Хролы, Пэрляева і Пабікры. Там у мінулым годзе прымянялі па 50—60 і больш кілаграмаў НПК на адзін гектар.

Значыць, у міжз'ездаўскі перыяд усё ж наглядаўся прагрэс у сельскай гаспадарцы Сямяціцкага павета. Не быў ён такі, якога хацелася б пажадаць усім гаспадарам, але ўсё ж сялянскія справы ішлі наперад. Гэты прагрэс найбольш відавочны ў меліярацыі і загаспадараванні лугоў, электрыфікацыі вёсак, гаспадарчага будаўніцтва і механізацыі апрацоўкі зямлі. На гэта штогод, пачаўшы ад 1964 года, улады адводзілі больш 100 мільёнаў злотых. Разам на патрэбы сельскай гаспадаркі Сямяціцкага павета ў міжз'ездаўскі перыяд дзяржава прызначыла амаль паўмільярда злотых.

Гэты капітал і гэтыя мерапрыемствы, якія здзейсніліся між IV і V з'ездамі партыі пачынаюць ужо працэнтаваць. Яны ствараюць добрую аснову, каб адарваць галаву сямяціцкаму гору. На гэтай аснове кіраўнікі сельскай гаспадаркі ў Сямяцічах вызначаюць для сябе і для сялян смелыя планы. Важна гэта таму, што ў Сямяціцкім павеце сельская гаспадарка з'яўляецца асновай быту амаль для 77 працэнтаў насельніцтва.

М. Нурэцкі




■ На станцыі Саколы ў Лапскім павеце таварны цягнік вечарам 21 верасня г.г. зарэзаў Яна Рашкоўскага. Было яму 19 год. Працаваў ён у Беластоцкім прадпрыемстве электрыфікацыі сельскай гаспадаркі. Пад колы цягніка трапіў, калі ішоў чыгункай.

■ У Новай Вёсцы на Дуброўшчыне 19 верасня г.г. здарыўся трагічны выпадак у час капання бульбы. Жыхара гэтай вёскі Тадэуша Марцінчыка ўцягнула ў трактарную капачку, у выніку чаго паламала яму амаль усе косці. У цяжкім стане неасцярожнага селяніна адвезлі ў бальніцу.

■ Беластоцкая міліцыя арыштавала братоў Рамуальда і Эдварда Караленкаў за тое, што ў час бойкі цяжка паранілі Яна Мароза. Абодва браты па прафесіі слёсары і абодва нідзе не працуюць. Нажом у бок Казімір Валасінскі (59 год) з Саколкі параніў Сцяпана Іванча (33 гады), таксама з Саколкі. Здарылася гэта ў час бойкі. Аднаго з іх адставілі ў бальніцу, а другога забрала міліцыя.

■ У Сяргея Пракапюка з вёскі Пасынкі ў Бельскім павеце ў час вобыску была знойдзена самагонка. Самагоншчыкам зацікавілася міліцыя.

■ У Гарадку на вуліцы Міхалоўскай вывернуўся з матацыклам «МЗ» Аляксандр Сяржан, якому 24 гады, жыве ён у Гарадку. Цяжкапараненага аматара хуткай язды адвезлі ў бальніцу. Падвечар 22 верасня г.г забіўся на матацыкле жыхар вёскі Чорная Сярэдняя Мікалай Міхальчук, якому было 22 гады. Не маючы права язды, ехаў ён па-п'янаму нерэгістраваным матацыклам, і на поўнай хуткасці ўдарыў у прыдарожны слуп. Смерць наступіла адразу. Гэты чалавек быў ужо ў гэтым годзе караны за язду матацыклам у нецвярозым стане.

Асака

Асаблівай увагі з нашага боку заслугоўвае ацэнка гісторыі Беласточчыны за перыяд 1939—1941 гады. Ацэнка гэтая яшчэ не вельмі смелая, але таму важная, што бадай упершыню знаходзім навуковае адлюстраванне гэтага памятнага часу. Доктар Г. Маецкі піша: «У 1939—1941 гадах наступілі на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства карэнныя змены. Тэкстыльная прамысловасць перажывала перыяд росквіту. Усе прамысловыя прадпрыемствы прыступілі да прадукцыі і працавалі поўнай парай. Ліквідавана была пагроза беспрацоўя. Праведзена зямельная рэформа, у выніку чаго дзесяткі тысяч сялянскіх беззямельных і малазямельных сем'яў атрымалі зямлю. Нацыяналізавана ўсе прадпрыемствы. Наступіла развіццё культуры і асветы. Беласток упершыню ў сваёй гісторыі атрымаў вышэйшую навучальную ўстанову — Педагагічны інстытут. У Беластоку пачаў працу пастаянны гарадскі тэатр. Усе гэтыя пераўтварэнні былі здзейснены, дзякуючы актыўнай дапамозе значнай часткі мясцовага насельніцтва, асабліва былых членаў КПП. Пад канец 1939 года і на пачатку 1940 года ў Беластоку групіравалася камуністычная і антыфашысцкая эміграцыя. Знайшлася тут большасць камуністычных дзеячаў, якія прыбылі з усяе Польшчы. У Беластоку актыўна дзейнічалі Марцэлі Навотка, Павел Фіндэр, Альфрэд Ляммпэ, Баляслаў Берут, Малгажата Фарнальская, Францішак Загура-Маліноўскі і другія. У Ломжы дзейнічаў Ян Турлейскі. У Беластоку пачала выходзіць газета на польскай мове «Вольная праца».



Жыхары Беластока вітаюць сваіх вызваліцеляў — савецкіх воінаў.

Агляд гісторыі рэвалюцыйных змаганняў на Беласточчыне доктар Маецкі канчае на 1948 годзе, адзначаючы факт аб'яднання польскага рабочага руху і ўзнікненне 15 снежня 1948 года Польскай аб'яднанай рабочай партыі.

Кніжка выйшла тыражом у 10 тысяч экземпляраў. Павінна яна знайсціся ў руках кожнага настаўніка і вучня старэйшых класаў пачатковай і ўсіх класаў сярэдніх школ, у руках культурных і грамадскіх дзеячаў, у руках кожнага, каму неабыякава яго мінулае. Прыносіць яна шмат дакументаў і здымкаў, якіх дарэмна шукаць у другіх кніжках.

*) Z rewolucyjnych tradycji Białostocczyzny 1864—1948.

В. Рудчык

## ВАЕННАЯ ТЭХНІКА



Паходны мост

Медыцына

# СЭРЦА РАМАНТУЮЦЬ

Пакуль вучоныя асвойваюць перасадку розных органаў, спецыялісты настойліва шукаюць шляхі аднаўлення тканак чалавечага цела. Просты і эфектыўны спосаб аднаўлення касцей чэрапа пасля розных пашкоджанняў распрацаван трупай савецкіх вучоных-урачоў на чале з прафесарам Л. Паляжаевым. Здробненая касцявая тканка змешваецца з крывёю пацярпеўшага і ў выглядзе пасты накладваецца на цвёрдую мазгавую абалонку ўпоравень з краямі суседніх чарапных касцей. Праз трыццаць дзён з «пасты» ўтвараецца маладая губчатая косць і закрывае пашкоджанае месца. Новы спосаб паспяхова прайшоў праверку ў клініках розных гарадоў краіны.

Не менш цікавыя работы супрацоўнікаў Л. Паляжаева па штучнаму аднаўленню сардэчных валокнаў. Як вядома, пасля ранення, аперацыі ці нават моцнага ўдару на сэрцы ўтвараецца цвёрды рубец, які перашкаджае яго нармальнай рабоце. Каб такога рубца не ўтваралася, даследчыкі прапануюць моцна разбурыць валокны ў месцы іх пашкоджання і затым штучна рэгуляваць працэс іх аднаўлення, затрымліваючы ўтварэнне рубцовай тканкі. На думку вучоных, сэрца пасля такога «рамонту» можа стаць нават больш моцным, чым раней.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# МЕХІКА

Мехіка — гэта старэйшы з цяпер існуючых у Новым свеце гарадоў, заснаваны ацтэкамі амаль за два стагоддзі да з'яўлення ля берагоў Амерыкі Калумба — сёлета чакае самае вялікае спартыўнае «ўварванне» ў сваёй гісторыі. Тут з 12 па 27 кастрычніка адбудуцца летнія Алімпійскія гульні.

Алімпійскія гульні ідуць сваімі карэннямі ў антычную Грэцыю. І як многае, звязанае са старажытнай Эладай, яны акружаны легендамі.

Вось адна з іх:

Цару старажытнагрэчаскага горада Пісы Энамаю аракул прадказаў змрочны лёс: ён загіне, як толькі яго дачка Гіпадамія выйдзе замуж. «Конь мой быстры, нібы вецер, — рашае Энамай. — Няхай кожны прэтэндэнт на руку дачкі спаборнічае са мной у гонках на калясніцах». Нямала няўдачных жаніхоў склалі галовы, прайграўшы жорсткія паядынкі. Усё ж знайшоўся мужны юнак Пелопс, які кінуў выклік лёсу. Ён выйграў гонку, завалодаў прыгажуняй, а з ёй і прастолам Паўднёвай Грэцыі (адсюль назва паўвострава — Пелапанескі). У гонар перамогі над Энамаем, атрыманай у Алімпіі, Пелопс рашыў наладжваць спартыўныя спаборніцтвы. Пазней Геракл, сын «айца багоў і людзей» Зеўса, надаў гульням агульнагрэчаскі характар.

Сучасныя алімпіяды, якія, як і старажытнагрэчаскія, праводзяцца раз у чатыры гады — па высакосных гадах — у многім адрозніваюцца ад антычных. Але па-ранейшаму алімпійскі агонь запальвае ў сэрцах людзей дух таварыства, кліча ўдзельнікаў да сумленнай спартыўнай барацьбы.

Чаму ж 19-ыя па ліку Алімпійскія гульні сучаснасці (першыя адбыліся ў 1896 годзе) праводзяцца іменна ў Мехіка, ды яшчэ ў непрывычныя для нас тэрміны — позняй восенню, калі звычайны летні спартыўны сезон ў Еўропе, Азіі і Паўночнай Амерыцы ўжо заканчваецца?

Мехіка — самы высакагорны з алімпійскіх гарадоў. Такі выбар заклікан садзейнічаць далейшаму развіццю спорту сярод жыхараў горных раёнаў зямлі, ён павінен паказаць, што і ў іх ёсць нядрэнныя ўмовы для фізічнага ўдасканалення.

А чаму ў кастрычніку? Ды таму, што да пачатку гэтага месяца ў субтрапічным Мехіка канчаецца перыяд дажджоў і наступае лепшая пара года. Мексіка ўдастоена алімпійскай павагі першай не толькі ў Лацінскай Амерыцы, але і наогул сярод краін, якія гавораць на іспанскай мове.

Алімпіяды — гэта гонар. Гэта і вялікія клопаты. І расходы таксама. Самыя дарагакаштуючыя з алімпійскіх гульняў — такійскія — каштавалі 3 мільярды доларaў, куды, між іншым, увайшлі і затраты на гіганцкую рэканструкцыю транспартных артэрый японскай сталіцы. Такая раскоша не пад сілу Мексіцы. Аднак і яе расходы складуць унушальную суму — каля мільярда песо, або 80 мільёнаў долараў.

Мексіканскія гульні, відаць, увойдуць у гісторыю як самыя прадстаўнічыя, упершыню сабраўшыя пасланцоў больш ста краін. У Токіо было прадстаўлена 94 краіны.



Алімпійская вёска.




### БЛІНЫ З ГАРОДНІНАЙ

З вадкага прэснага цеста спячыце тонкія бліны. На падсмажаны бок гатовага бліна пакладзіце фарш з гародніны і загарніце. Бліну надайце выгляд прамавугольнага піражка і абсмажце. Для прыгатавання фаршу свежую белакачанную капусту нарэжце саломкай, заліце варам і пакіньце ў ім на 3—5 мінут; моркву нарэжце саломкай, змяшайце яе з капустай і пасеруйце на маргарыне. Дадайце пасераваную рэпчатую цыбулю і сечанае варанае яйка.

### ГРЫБНЫ СОУС

Цыбуліну добра парэжце і падсмажце. Змяшайце з варанымі пасечанымі грыбамі і смажце ўсё разам яшчэ 5—7 мінут. Падсмажце сталовую лыжку мукі з лыжкай масла, размяшайце з грыбным бульёнам і варыце каля гадзіны. Пасаліце, працадзіце. Паклаўшы ў соус падрыхтаваную цыбулю з грыбамі, варыце 10—15 мінут.

Грыбны соус падаюць да гародніны і крупяных страў.

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

# Плады „Будзь здароў“

«Будзь здароў» — так называюць жыхары астравоў Акіяніі папайю — пладовае дрэва, якое расце ў тропіках. І нездарма. Плады і лісце дрэва маюць надзвычай каштоўны фермент. Ён больш актыўны, чым пепсін, расшчапляе бялкі, растварае абмёршыя клеткі і выклікае рост жывых тканак. Фермент, які носіць назву папаіатын, ужываюць пры некаторых страўнікавых і скурных захворваннях. З пладоў папайі робяць смачныя лекавыя напіткі, гатуюць сіропы, джэм, мармелад.

Дрэва гэта незвычайнае. Уявіце сабе голы ствол вышынёй у двухпавярховы дом. А на яго верхавіне ў кроне з вялікіх лісцяў вісяць плады. Яны жоўта-зялёныя і напоўнены салодкай сакавітай мякаццю, якая нагадвае дыню. Таму батанікі і назвалі дрэва «папайя» — дыннае дрэва.

## Чвэрць стагоддзя назад




Вечарам 5 кастрычніка 1943 года з Внукаўскага аэрадрома падняліся два цяжкія транспартныя самалёты. Узялі курс на захад, на глыбокія тылы ворага. У гэтых самалётах ляцелі дзве групы дэсантнікаў. У адным — наша, якая мела крыптанім «Дальнія», у другім — група «Стойкія». У апошняй мой сардэчны прыяцель капітан Косця Груздзеў.

Пасля шасці гадзін палёту наблізіліся мы да мэты. Ноч з пятага на шосты кастрычніка была зорная і ўжо здалёк убачылі мы яркія пункцікі распаленых кастроў. Самалёт хутка наблiжаўся да іх. Ужо выразна відаць было шэсць кастроў, якія разам складалі літару Т. Гэта быў наш арыенціровачны знак.

Над кабінай пілотаў запалілася жоўтае, зацемненае святло. Яно азначала:
— Увага, падрыхтавацца!

Уставіліся мы гуськом, адзін за другім, перад дзвярыма самалёта, начапляючы шнуркі парашутаў на нацягнутую ліну. Самалёт разварочваецца, робіць круг, унізе кастры, як на далоні, інструктар глядзіць на жоўтае святло. І раптам яно гасне, запальваецца зялёнае, адчыняюцца дзверы.

— Пошёл! — крычыць інструктар.

Адзін за другім кідаемся ўніз.

Лячу з адкрытымі вачыма. Праз момант бачу чырвоныя агеньчыкі адлятаючага самалёта і здаецца мне, што змяніў ён напрамак: ляціць проста ўгару. У гэтым моманце адчуваю моцны штуршок — самы непрыемны момант у часе скоку, калі адкрываецца парашут — і над галавою распасціраецца белы купал. Потым гойданка і спакойны з'езд уніз. Навокал купалы іншых парашутаў. Лічу: — Адзін, два, тры, чатыры, пяць. Усе! За момант самалёт вернецца і скіне багаж.

На аэрадроме, перад самым адлётам, апрача каньяку, некаторыя, напаўняючы манеркі, выпілі і крыху спірту. Старшы лейтэнант Нячаеў быў з тых, што калі маюць нешта выпіць, не адказваюць сабе гэтай прыемнасці. Палкоўнік Васільеў таксама не любіў выліваць за каўнер. Дык карыстаючы з нагоды сербанулі парадкам. Нячаеў яшчэ і ў самалёце заглянуў у манерку. Адным словам, ляцеў у вясёлым настроі. Дык цяпер, калі адчуў, што парашут раскрыўся і з'язджае ўніз, яго гумар так паправіўся, што, не знаходзячы іншага спосабу выладаваць яго, зароў у паветры:

В далёкий край товарищ улетает,
Родные ветры вслед за ним летят...

— Закрой рот, сукин сын, а то пристрелю! — крыкнуў капітан Хмялеўцаў.

— Чего ореш! — адказаў Нячаеў, але спыніў свой спеў, сціх.

Падаю на багністы, але сухі, пакрыты травою і мохам, мяккі бы матрац, луг. Каўпак парашута накрывае мяне цалкам. Адшпільваю парашут, выблытваюся са шнуркоў, вылажу з-пад шаўковага пакрывала, здымаю аўтамат, адбяспечваю яго, кладу палец на спуск, уважна разглядаюся. Паблізу нікога не бачу, усё засланяе высокая трава і карчы. Чую ціхі свіст. Адказваю такім самым спосабам. Свішчуць другія. Збіраемся. Нас пяцера: Хмялеўцаў, Чаўрыкаў, Новікаў, Шытаў і я. Не хапае Нячаева. На далейшы наш прыцішаны свіст не адказвае. — Відаць, нешта з ім здарылася, даспяваўся! — сычыць праз зубы Хмялеўцаў. — Хай я толькі яго знайду, дык, сукіну сыну, паспяваю!

Раптам чуем нейкае шаматанне, трэск галін.

— Чуеце? Там! Пайшлі туды.

— Не, не ўсе. Хай ідзе адзін. Новікаў, ты пойдзеш. Як знойдзеш, свісні і чакай нас.

Неўзабаве чуем свіст Новікава. Ідзем. Падышоўшы, бачым угары над галовамі белае палатно парашута, завешанае на старой альшыне. Пад ім, тры, чатыры метры ад зямлі дындаецца на шнурках Нячаеў.

— Чаго возішся, перарэзвай шнуркі! — крычыць Хмялеўцаў. — Чорт бы цябе ўзяў, спявак!

Нячаеў рэжа фінкай шнуркі і падае на зямлю. Хмялеўцаў падыходзіць да яго, падстаўляе яму пад нос свой кулак:

— Панюхай, чым гэта пахне. Як не ўмееш піць гарэлкі, дык пі малако і не выдурняйся, бо можаш паехаць назад, памятай...

Маналог Хмялеўцава спынілі нейкія галасы, якія пачуліся недалёка ад нас. Потым пачулі мы іржанне каня, урэшце — гукі гармоніка.

— Да д'ябла, куды мы зваліліся? — прыцішаным голасам гаворыць Хмялеўцаў. — Што гэта за музыка?

— Немцы прыйшлі сустракаць нас з гармонікам, — сказаў Нячаеў.

— Цьфу! — наш камандзір плюнуў і адвярнуўся са злосцю. — Рассыпацца ў ланцуг, так, каб адзін другога бачыў. Хіба з таго боку гарэлі кастры, гэта гоман з аэрадрома. Пайшлі.

Ідзем асцярожна, трымаючы напага-

